СЛАВАМІР
АДАМОВІЧ

# КАЛЬВАРЫЙСКІЯ КЛЁНЫ

БІБЛІЯТЭКА
ЧАСОПІСА



Маладосць

СЛАВАМІР АДАМОВІЧ

# КАЛЬВАРЫЙСКІЯ КЛЁНЫ

ВЕРШЫ

Богам у маёй душы была і застаецца Маці-прырода, яе невычарпальны дух. Адно ёсць імкненне — са смецця і друзу чалавечых адносін здабыць парастак цноты. Няхай тымі парасткамі будуць два-тры ўдалыя вершы.

«In herbis, verbis et lapidibus»,— казалі старажытныя. Гэтак і мы, людзі веку сённяшняга, мусім застацца ў травах, словах і камянях.

Славамір АДАМОВІЧ

*Славамір АДАМОВІЧ нарадзіўся ў 1962 годзе на станцыі Унежма Анежскага раёна Архангельскай вобласці. Скончыў школу ў мястэчку Будслаў, свірскае СПТВ-17. Працаваў трактарыстам на цаліне, служыў у ВМФ, працаваў на чыгунцы, на заводзе імя Кірава ў Мінску. Цяпер — студэнт БДУ. Сябра таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, у штотыднёвіку «Ніва».*

## ДОЛЯ

Не кідай мяне, добрая птушка,
Забяры ў вышыню за сабой.
Я вузенькай чырвонай істужкай
Праплыву па-над белай зямлёй.

Зачаплюся на ймгненне за вежы
Разбатрачанай даўніны,
Кіну цень на асеннія межы,
На пушчанскія лахманы.

Хай крычаць мне: ні пуху ні пер'я.
К д'яблу загадзя ўсё пашлю.
У душу беларускі веру я —
З крывічанкай вазьму шлюб.

Перад тым як з зямлёй навечныя,
Прысуседжуся з небам, зорамі...
Ой ты доля мая перапечная,
Перавітая ўкрыж аборамі!

## ЯДЛОЎЦАВАМУ КУСТУ

У іглiцы тваёй захаваўся уздых чысцiнi.
Мне здаецца, апошнi. Так жаласна каня крычыць.
Нехта ў матчынай хаце на захад акно расчынiў,
Каб у промнях крывавых палёт кажаноў прасачыць.

Чуеш стогны? То крушнi ўлягаюцца спаць.
Вунь каменнi наверсе варушацца, як шчанюкi.
I на вейцы ў звярыны аб лiтасцi слёзы трымцяць.
I ад вiльгацi мякнуць барознаў груды-камлюкi.

Ты расцеш на зямлi, да якой прырастаю i я.
Ты алтар мой зялёны, прыстанак лятункаў i мар.
А яшчэ, можа, дуб сярод купiн ды звон ручая
I забыты ратаем, зарослы ваўчыцай папар.



Глянцавiты зялёны бруснiчнiк,
Упаду я ў твой дробненькi цвет
I, як той закаханы язычнiк,
Напiшу свой паганскi санет.

З гiяцынту, падбелу, рамонку
Шматкалёрны атрамант зраблю
I пiсаць буду смела i звонка
Пра ўсё тое, што ў свеце люблю.

А люблю я адчайна i дзёрзка
Пекнату залатых нагаткоў,
I маю рудавокую цёзку,
I шурпатасцi першых радкоў.

А люблю я грымотаў раздолле,
Чысты лiвень, а зрэшты, i пыл,

Калі пыл гэты з роднага поля,
Па якім мой бадзяўся капыл...

Я не ведаю, што па-за светам,
І не ведаю, што па-за мной.
Чую толькі, як сэрца каметай
Працінае развагі канвой.

І за гэта люблю маё сэрца,
І шкада мне раба у слязах,
Што іграе пужлівае скерца
На сапсутых маною басах.

*Багацькайка! Мая мілая і ўмесьце з тым пастылая Багацькайка! Люблю я цябе з тваім садком, ляском... Люблю тваіх мілых, слаўных, вясёлых дзетак, тужлівых старычкоў і вясёлых пявуньняў-дзевак. Ненавіджу тваю гразь, непрытульнасць. Скарэй набрацца сілухны і пачаць варушыць камні...*

Максім Гарэцкі

Тамсама ўсё квітнее вішня й бэз
І гордыя асверы крэсляць неба.
Там богавым аблокам не паспець
Ад воч людскіх схаваць запрэжку Феба.

Тамсама ўсё шархучая трава,
І шэры чмель, і пыл, і скрып атосы.
І ровар, нахілёны да слупа,
І я бягу, расхрыстаны і босы.

О вобразы крывіцкія! О свет
І любасць над усім без атачэння!
Як хутка ападае белы цвет
І як марудна спее плод праменны.



Праз лета, праз дзён карагод мігатлівы
Імкне мая думка ў рабінавы край,
Дзе ў матчыных казках дзівак быў шчаслівы,
А дурань быў дурнем, як тут ні рашай.

Дзе розлівень сонца — калоссем жытнёвым.
У мэндліках-бабках снапы, як дубы.

Жаночыя рукі сярпом адмысловым
Звычайнымі рухамі кроящь гады.

Здаецца, каторы ўжо раз ■ прыходжу
У спавіты туманам зялёны куток,
Дзе гэтак, як колісь, праз цень-агароджу
Фліртуе з чаромхай язмін-хітрунок.



Нешаляваная хата глядзіцца вугламі ў свет.
Ля хаты на лаўцы тата вітае вяскoвых кабет.
Паўкругам гародчык прыткнуўся, шчарбаты парканчык сівы
І сцежка, дзе я спатыкнуўся аб корань бярозы-журбы.

Нешаляваная хата, парэпаных бёрнаў прыбой.
Скрыпячая веснічак варта, іржавы ў клямцы прабой.
Мундэра ля студні пад бэзам і блёкату ўедлівы зірк,
На камені пліска-гарэза, над поплавам кнігаўкі крык.

Нешаляваная хата, за ёю сцяжына ў прастор.
За ёю дзівосаў багата, за ёю усё навыбор.
А толькі з высокіх гасцінцаў штурхае за грэблю ўспамін,
Дзе я на згарэлым дзядзінцы з ядлоўцам адзін на адзін.

## РАЗМОВА З ЯШЧАРКАЙ НА ПРЫДАРОЖНАЙ КРУШНІ

Сястра мая, шэрая яшчарка,
Не бойся маёй далані.
Я брат тваіх вымерлых прашчураў,
А больш я не маю радні.

Я неба не прагну высокага,
Сястра, я люблю спачываць
На ўскраіне поля шырокага
І песню пра волю спяваць.

Люблю я успомніць мінуўшчыну:
Жытнёвыя мэндлікі ў рад,
Шчарбаты спарыш з хлебнай гушчаю,
І пожню, і слёзы, як град.

Пажары, грымоты і печышчы,
І побач з раллёю — дзірван.
І сімвал крывіцкае вечнасці —
Амшэлы жвіровы курган...

І памяці гэткай, о шэрая,
Ніколі не збыцца мне. Не!
Жыву я з вялікаю вераю
На круглым маім валуне.



Далятайце, зоркі, да зямлі,
Не мінайце шчасця і пакутаў,
І на тлустай чорнае раллі
Вырастайце для віжоў цыкутай.

Далятайце, зоркі, да людзей,
На гасцінцах, вільчаках, адрынах,
На зялёнай кменнае градзе
Узгарайце зоркамі Айчыны!



Мне сняцца ўпарта вяргіні Палесся
Ў здзічэлых даўно гародчыках,
Быццам яны там, дзе пранеслі
Жоўтае цела нябожчыка.

Вяргіні Палесся, вы — гераіні,
Квітнееце там, дзе не б'юцца сэрцы.
Вяргіні роспачы і ўзнясення
Да самай-самай вяршыні Пратэсту.

Вяргіні жалю, ваш цвет — пякельны,
І чырвань ваша як немы крык
Жывых і спаленых пакаленняў,
Што леглі ў кляты свой мацярык.

Мне сняцца ўпарта вяргіні Палесся,
Дзверы насцеж у белы свет,
У павуцінні строгі чалеснік
І чорнай слязы прабабчын сыгнэт.



Калі сціскае грудзі боль смяртэльны
І трызніцца асочнікаў гайня,
Так хочацца з разгушканых арэляў
У зорны свет, які б мяне прыняў.

Сярод планет я падаў бы і падаў,
Губляючы пякельны боль з грудзей,
А ўпаўшы на Юпітэравы грады,
Я збудаваў бы новы Калізей.

Я пасадзіў бы там дубы і сосны,
Без ліку руж, півоняў і вяргінь,
Я пчол бы там развёў і дзікіх восаў,
Я даў бы жыць усім — і сам бы жыў
Сярод багоў цнатлівых і багінь.

## СОН

Пасцяліў каля ног [redacted] сабе грунтавыя дарогі,
Ну а вечнасць паклала пад голаў мне шэры валун.
Гэтак сплю я і сню, што ступіў на чужыя парогі,
Дзе мяне сустракаюць і дораць хмялісты багун.

І ў харомы завуць. І звяртаюцца мовай нянаскай.
Вочкі строяць красуні, уладна за рукі бяруць.
І цярновы сплятаюць вянок, намаўляючы казку.
І ў зялёныя вочы мне воцат са смехам ліюць.

А затым, асляпіўшы дарэшты, даюць акуляры,
Каб глядзеў цераз іх на спатрэблены ворагам край,
Каб здавалася мне, што вакол беларускіх абшараў
Не пустэльныя выдмы, [redacted] кімсьці сатвораны рай...



Вось камень, што кінулі мне пад ногі;
Вось дрот, якім павязалі мне рукі;
Вось поле, дзе бралі мяне у аблогу;
Вось Слова, з якога пазнаў навуку,
Як за плугам ступаць,
Як жанчыну кахаць,
Як віжа ненавідзець,
Як жывое не крыўдзіць,
Як радзіму любіць
І адданым ёй быць,
Што сказаць на світанні
Прад заўчасным скананнем.



На ворыва маё штовесну
Злятаюцца суседзі — чорныя крукі.
І, ляпаючы дзюбамі, спраўляюць месу
І прагна п'юць ваду з маёй ракі.

На ворыве маім растуць каменні,
З глыбінь імкнуць, з падзолам і жарствой
Выносячы наверх душу тых пакаленняў,
Што некалісь былі магутнаю Літвой.

На ворыве маім збяру я крушню
Для зграі груганоў — няхай дзяўбуць.
А ў баразну наноў палягуць дружна
Нашчадкаў зерняты — і Воляй прарастуць!

## ПАЭТ

Ён нарадзіўся з радзімым знакам
Крыху ніжэй, злева, пад сэрцам.
Кляла суседка: «Каб сеў ты макам!
Каб цябе у балота занеслі чэрці!»

А сонца хадзіла высока і нізка,
І сохлі пад сонцам жвіры дварышчаў.
Мусоліў хлопча пустую сыску
Ды слухаў, як вецер за шыбай свішча.

А вечарамі спускаўся з бэлькі
Чырвоны Бай у квяцістых портках,
Вымаў ласунак з рудой камізэлькі
І ціха знікаў у начную фортку.

І штось на палку таямніча шашчэла,
І лямпы святло мігацела дымна.
Прыходзіў бацька з двара скалелы
І браў закурыць цыгарэты «Прыма».

Ніхто не бачыў, ніхто не ведаў,
Як рос хлапчына з радзімым знакам.
І што ён піў, і чым ён дзе снедаў:
Ці быў галодны, ці еў са смакам?

Адрумзала хутка маленства і — міма.
Наперадзе — шлях камяніста-шорсткі...
Хлапца да сябе гукнула Радзіма,
І ён пакрочыў, хутка і проста.



Я не прыйшоў, калі яго хавалі
Гарачым днём у гліну і падзол,
Калі пасля за чаркай спаміналі,
А бабы дружна хліпалі ў падол.

Яшчэ ў дварышчы моцна пахла стружкай
І перагарам ад паяльных лямп,
А ўжо хадзілі, нос задраўшы, служкі
І пасмяротны пелі дыфірамб.

Ды што яму да гэтай позняй славы,
Яму, хто пеў жывую трату дзён,
Хто засядаў на непадсуднай лаве
І быў заўжды, як вечны маладзён.

Спяшае час. Пчала збірае ўнёсак.
Вільготны крыж — яе аэрадром.
Даўно паэт не ставіць лішніх косак,
Бо лёс паставіў кропку за радком.

## ДЭФІНІЦЫІ АДНОСНА САМОГА СЯБЕ

Я — там, дзе правіцца імша
Па ўсіх паэтах-самагубцах;
Я — там, дзе кволая душа
Гарыць, як аганёк у грубцы;

Я — там, дзе праклінаюць лёс,
Дзе хлеб смакуюць, як аплатку,
Дзе з плеч чужых і навырост,
Дзе толькі гора у дастатку;

Я — там, дзе п'юць, што будзь здароў,
Дзе ўсмягла пыхкаюць «Памірам»,
Дзе наплявалі на багоў
І растапталі вашу ліру;

Я — там, дзе крута замяшаў
Хтось адчайдушны жаль з нудою,
Дзе грунтавая і шаша
Сышліся разам за гарою;

Я — там, дзе прадзедаў абшар,
Дзе здрадай высланы парогі,
Дзе сёння мне плююць у твар,
Каб заўтра цалаваць у ногі.

◆

Кальварыйскія клёны асеннія скінулі ўборы.
Квадратура вакон пачарнела на тварах дамоў.
Завастрыліся скулы завулкаў, і чорныя шторы
Захінулі ад свету людскія і радасць, і кроў.

У клааку ракі бруднапёрыя падаюць птушкі,
І бягуць неахвотна па мёртвай паверхні кругі.
Лістападаўскі вецер хістае рудыя пялюшкі,
На бязлюдных бульварах скуголячы жудка з нуды.

На карэлых прыпынках плакатнасць у рваных
афішах.
Пад нагамі прахожых канчаецца сённяшні дзень.
Мы на белых палотнах нанова гісторыю пішам,
Наступаючы смела на ўласны спалоханы цень.

## ПЕСНЯ ПРА ЧАЛАВЕКА Ў ЦЫВІЛЬНЫМ

Вось ідзе чалавек у цывільным,
Засакрэчаны яго рухі.
Ён глядзіць на ўсё позіркам пільным,
Усё чуюць ягоныя вухі.

У яго гарнітурчык прытульны,
Штрыфлі чорныя, чорны крават.
Ён увесь — таямніча-утульны,
Нібы колер шпітальных палат.

Ён ідзе прахаднымі заводаў,
Ён сядзіць у кавярні за кавай.
Ён тутэйшай мяшчанскай пароды,
І яму не патрэбна слава.

У яго ёсць кватэрка і дача,
Жонка сціплая, сын і дачушка.
І калі хто з іх часам і плача —
Суцяшае іх «мішавы плюшка».

...Ён таксама ўладальнік машыны
І трымаецца правіл дарожных.
І пяюць яму песеньку шыны
Пра разведкі краінаў варожых.

Бедалага, не бачыць ён свету
За сваёю штодзённаю працай.
У палітыку лезуць паэты,
І ніводзін не хоча быць цацай.

...Ён ідзе па асеннім праспекце
І чытае газету «Правда»,
А за ім — 37-ы, год смерці
Мільёнаў бяспраўных.

## ВЕРШ НА РАБОЧУЮ ТЭМУ

Мой хлебадаўца станок свідравальны
(Пудовы штурвал і смурод керасінны),
Чуеш, вучань твой з мовай брутальнай,
Я сёння святкую свае імяніны.

Мне сёння святочна у думках і ў сэрцы,
Хоць крыху шкада перазменкі цэхавай,
Калі майстар Ваня па жоўтай паперцы
Чытаў палітграмату і часта перхаў.

Я помню сёння да смеху і болю
Суботы рабочыя і Першамай,
Калі фарбавалі чырвоным кансолі,
А потым нарад закрывалі на «чай».

Я помню трынаццаты наш ліцейны
І тоўстыя таліі кранаўшчыц,
Плакаты «Даёшь...» замест габеленаў
І на партсходзе чыёсьці «цыц».

Я помню пяшчоту калянай робы,
За шкоднасць квіточкі на малако,
І голад духу, і прагу вантробаў,
І песню сумную пра Суліко...

Таму і сёння ■ — пралетарый!
І дух мой — сталь! І воля — разец!
А вершу не трэба майму каментарый,
Бо гэта пачатак мой, а не канец...



Калі я гляджу на вуліцах тлумных
У вочы жанчын, абцяжараных ношай,
Я ненавіджу музыку струнных,
Шрыфт плакатны і медныя грошы.

Мне сорамна, што я зусім няздольны
Хоць чым памагчы натомленай маме.
Маўчаць гарсаветы, далёка Смольны,
І ні шыша у бліжэйшай краме.

Фальшываманетчыкі ідэй і веры,
Дысертанты і дысідэнты.
Зведзена шмат дарагой паперы
На прапаганду і псеўдапрацэнты.

А ў сталічных прадмагах чэргі за фаршам,
Чэргі за «Шыпрам», нібы за хлебам.
Ідзе па краіне паходным маршам
**Перестройка** зямлі і неба.

Будуюць новыя дамы палітасветы,
Спецпаліклінік, спецгаражоў,
А я ў забягалаўцы спецкатлету
Ем з дапамогаю двух нажоў.

Мне сёння дарэшты абрыдлі словы.
Я — пальцы ў кулак і жывот падабраў.
І няхай там усе за ўсход барвовы,
Я — за блакітны прагаласаваў.

*Эй вы, там, наверху...*

(з папулярнай песенькі)



Я не быў на самай «верхатуры».
Кранаўшчык знаёмы мне казаў,
Што жывуць там чыста, без халтуры,
Індыкі, вароны і фазан.

Што лятаюць пеўні Млечным Шляхам,
Што у згодзе коршак з вераб'ём,
І гняздзіцца у арла пад пахай
Кураня з маленькім грабянём.

Распавёў ён мне, як там супольна
Век жывуць усякія звяры,
Кожны год аднойчы ў дзень застольны
Амбру п'юць да самае зары.

І не знаюць спаткаемнай звады,
Здрады подлай, хцівасці й маны,
Бо ва ўсіх ні званняў, ні пасады,
Ні айца, ні бога, ні казны...

## ЗАЎТРА

Заўтра зноў уставаць,
І кудысьці спяшацца,
І пра нешта казаць,
І за штосьці спрачацца.

Заўтра зноў да людзей,
Зноў глядзець ім у вочы,
Каб якісь «дабрадзей»
Мне пра лёс мой прарочыў.

Заўтра зноў да святла
Прадзірацца скрозь цемру,
Але хтось, як са зла,
Крыкне: «Хлопец, знай меру!»

Заўтра зноў у чарзе
Забіваць сваё месца,
Каб пачуць, як вярзе
Алкаголік пра вечнасць.

Заўтра зноў да станка,
А пасля за канспекты
Ад цямна да цямна,
Толькі ноч на пражэкты.

Ноччу воля твая —
Мар аб шчасці і славе.
І прысніцца ралля,
Белы конь на атаве.

І прысніцца яшчэ
Стан дзявочы ў абнове,
І бацькоўскі прышчэп,
І матуліна мова.

## БАТАНІЧНАЯ ВОСЕНЬ

Яшчэ за вуглом гандляркі
Марозіва прадаюць
І смажаць тлустыя скваркі
Ды воцат на іх ільюць.

І нечы стомлены тата,
Ахвяруючы выхадным,
У кампаніі жонкі і брата
Шашлычны нюхае дым.

Ізноў аднавілі піва:
Пі цяпер, хоць заліся!
Паветра ранішняга разліву
З прымаразкам на лісцях.

Купіць хіба што квіточак,
Зайсці за браму у сад,
І нават не ў сад — у садочак,
Ды выкашляць вуліц чад.

І доўга сядзець на лаўцы,
Усміхаючыся прыгожым
У небе аблокам-сваццям,
Што плывуць да святой Каложы.



Восеньская празрыстасць.
Неба — блакітны шчыт.
Вецер — лятун ганарысты —
Свой прэзентуе спрыт.

На грунтавых дарогах,
У падкапытным пыле,
Нехта знайшоў свайго бога,
А хтосьці з памыямі выліў.

Здзіўлены пад'яленец
У нагавіцах рыжых
Ціха-ціха струменіць
Спакой і красу на бліжніх.

## ВЕРАСЕНЬ

Жанчынай надкушаны яблык.
З асенняга саду лісток.
Пад вішняй самотныя граблі
І смеццем забіты рышток.

І ў гліне сляды басаногай.
І дождж, цалавальнік слядоў.
І вочы каровы бязрогай.
І бездань пражытых гадоў.

Ды толькі мне з вечнай самотай
Шкада не дзіцячай пары,
А гэных лістоў з пазалотай
На ціхім крывіцкім двары.

Глянь: там, дзе простор вераснёўскі,
І тут, дзе збянтэжаны я,
Дымяцца кастроў пахітоскі,
І пахне марозам ралля.



Павісла пража маткі боскай
Паміж ядлоўцам і асінай.
Без шуму лішняга і лоску
Спраўляе восень атрасіны.

Стаяць у роздуме стагоддзяў
Руіны замкаў зваяваных.
Дух страты лётае ў прыродзе,
Над пляцам скібы неаранай.

Чыесьці крокі ўздоўж ля прорвы.
І цягне ўбок і дзесьці ўніз.
З карункавых фантасмагорый
Малюе вецер Ex Libris.



Паперадзе бязлюднай электрычкі
Кульгавы змрок ляціць у нікуды,
І падаюць спалоханыя знічкі
Ў рачныя ціхаплынныя брады.

Схаваліся ад непагадзі душы
Пад абарог, адзін на цэлы свет.
А свет злажыў хатуль і сцежкай рушыў,
Смакуючы сяголетні ранет.

Ягоны шлях кіруе у суквецце
Галактык чыстых, дзе няма хлусні
І дзе на кожнай роснае планеце
Травой жывуць шакалы і ласі.



Пара курынай слепаты.
Яшчэ святло не запалілі.
З дрымотай ціхай на платы
Ігрушы голле нахілілі.

Глядзіць на сцежку з-за кустоў
Здань сарамлівая з тугою.
Ёй вельмі ж хочацца, каб хто
Крануў яе жывой рукою.

Вось нацямочку рэй вядуць
Ядлоўцы у клубах туману.
І змову прымхліцы плятуць,
Гліняным бразгаючы збанам.

Апоўнач змоўшчыкаў гурма
Загляне ў спячае мястэчка,
І будзе хтосьці давідна
Сніць белых коней не ў вуздэчках.



Брыдуць два цені праз абмежак
На захад сонца крокам цяжкім,
Зганяюць звера з цёплых лежак
І ў кожны поркаюць мурашнік.

Кідаюць моўчкі свае душы
На мхі зялёныя, на камень
І ледзьве ягаднік варушаць
Худымі кволымі рукамі.

Брыдуць два цені крок за крокам.
За імі толькі след у росах,
А там, наперадзе, у змроку
Іх зноў чакае мройны пострах.

Брыдуць, каб хлебам дзе разжыцца,
Мінаюць студню з калаўротам,
З якой ніколі не напіцца,
Прыйшоўшы вечарам з работы.

## ТЭРОР БАБІНАГА ЛЕТА

Шпалапрапітачныя заводы,
Дрэвы, платы
Пахнуць кардыямінным водарам.
Залатым.

Восень закідала ўбраннем цвінтарыкі
І каплічную немату.
Ах, як вабяць вачэй ліхтарыкі,
Вуснаў ртуць!

Толькі нехта супраціўляецца,
Неразумны, лету бабінаму...
Пяюць прылюдна і моўчкі лаюцца
Ад прэзідэнта самога да рабіна.

Парай фыркаюць радыятары,
Нібы кратэры на Курылах.
Новы сезон адкрываюць тэатры
Ігрой актарак бяскрылых.

Ах, як пяцідзесяцікапеечнае
Пеніцца піва ў рабочых глотках!
Ах, як прыемна, на волі седзячы,
Адчуваць на плячах модную шмотку!

Восень. Лісце. Жоўтыя плашчыкі
Прыкрываюць калені жаночыя.
Ціха і цёпла ў душы аблашчанай,
Нібы шчацэ на футры вавёрчыным.

Вунь якімі прасцінамі зорнымі
Млечны Шлях пасцяліўся наначкі.
Шчанюкі халоднымі мордамі
Бяруць з далоняў свае падаяначкі

«Вось-такі-так,— па рэйках коціцца,—
Вось-такі-так, вось-такі-так!..»
Упершыню цнатлівыя роцікі
Спазнаюць пацалункаў смак.



Кармінавая цішыня,
Крывіцкая прастадушнасць.
Ды хочацца на рысях
Сыты спакой парушыць.

Дагератыпы дзён
Мне абрыдлі урэшце.
Гэй, хто там да волі жадзён?
Душу са мною пацешце.

На геаграфічнай карце
Мы знойдзем зялёны востраў.
Пляваць мы хацелі на «рацыё»
Дзеля пачуццяў простых.

Ёсць сонца, неба, і хлеб з вадой,
І, дзякуй богу, радзіма.
Імкнуць магутнейшаю ракой
Праз Бацькаўшчыну гальфстрымы.

## ПЕСНЯ ПРА АДЗІНОКАГА ЖУКА

У светлай бутэльцы з-пад піва
Жыў колісь фацэтны жук.
Еў сочыва з жоўтай слівы
І меў свой курортны сук.

На ім ён любіў часамі
Пачысціць блішчасты камзол,
Пакратаць спаважна вусамі,
Знароку упасці на дол.

І там, у зялёнай сельве
Травы дзеразы ды імхоў,
З галантнасцю кавалера
Казюрку праводзіць дамоў.

Ён знаць не хацеў пра дыету,
Тым больш не жадаў ён гавець.
Аблётаў ён добрых паўсвету,
А дома ўсё ж мусіў скалець.

І вось, калі крылцы аслаблі
І файны падраўся камзол,
Залез у шкляны дырыжабль
Жучок наш, стары хлебасол.

Праз шкло паглядаў ён, маркотны,
На клопат чмялёў і стракоз,
На пекныя мушак фарботы,
На свежы вільготны пракос.

Сачыў ён за краляй-казюркай
І штосьці ўсміхаўся ў вусы.
Па-дзедаўску ціхенька-ціхенька буркаў
І мёрз ад начное расы.

І так дажываў ён дзянёчкі
Ў бутэльцы празрыстага шкла,
Пакуль не закрыліся вочкі, ах, вочкі,
І сам не рассыпаўся ў шлак.

Праз лета пустая бутэлька
Залегла ў пяску і трысці.
І стала, і стала трава-канапелька
З жучковага сэрца расці.



Калі здыму я з ашчадкніжкі
Апошні смыканы рубель,
То вып'ю з польскага кілішка
І сам сабе спяю наэль.

Ў душу, расхрыстаную насцеж,
Ґанца адчаю не пушчу.
На мой хрыбет, нібы на шасі,
Мацнейшы кузаў нарашчу.

І пакачу па шлях-дарозе
Марошку есці ў дзікі рай,
Дзе на снягах рыпіць палоззе
Ды ззяннем свеціць небакрай.



Не спяшай, мая рыжая векша,
На чужое плячо не спяшай.
Гэта ж я напаткаў цябе першы,
Гэта ж мой ты прагнала адчай.

Будзе шэрае веча гарланіць,
Меднагорлыя будуць крычаць:
Разлучыць і свабоды пазбавіць!
Хай на столь у вязніцы глядзяць.

Толькі ж ты, мая рыжая векша,
Не пужайся людской дурнаты.
Сціхне веча, насупіцца вечар,
І засвеціцца серп залаты.

Рог затрубіць, гукне акарына,
Хваля вольнасці грудзі спаўе.
Першы твой і апошні мужчына.
Прад табой на калені ўпадзе.



Нібы паляны ў сунічным россыпе,
Раптам — полымя! — вусны каханай.
Мала паветра... радасна... млосна,
Страшна адзіным быць, ёю абраным.

Німбы — прэч! Маёй паляшучцы
Дзікі хмель галаву уквеціць.
Колькі трэба, дастану са Случы
Зор, што падаюць на дасвецці.

Німфы, дзе вам зраўняцца з тою,
Што за ўсіх вас службу нясе
І над маёй дурной галавою
Рукі стрэшкай складае ў сне.



Абляцела лісце, абляцела
Засмучоных вербаў і рабін.
Адбалела сэрца, адбалела:
Сустракаю восень сам-адзін.

Дык аб чым, каршуне, ў небе крэчаш?
І нашто твой розгалас лясам?
Абляцела лісце у цямрэчу,
І самотна стала верасам.

Не крычы, прашу я, ў небе смурым,
Не кружляй над болем душ-растрыг.
Хай жа боль закрые, як парсуну
Закрывае вечнасці уздых.

*Рахиль! Для того, кто во власти твоей,*
*Семь лет — словно семь ослепительных дней.*

Ганна Ахматава

Перуны адгрымелі. Прасохлі вясёлак палітры.
Загула з перадыхам пчала у бліскучай траве...
Аблачынаў на небе чытаю рухомыя цітры
І лаўлю у далоні дажджамі абмыты прамень.

Чую дух перуновы у пыле, прыбітым на сцежцы,
Па якой я бягу да цябе, рудавокі матыль.
І шчасліваму сэрцу ў грудзях немагчыма і цесна,
Бо чакаеш, блакітная, ў садзе зялёным, Рахіль!

Там і тут раскідалася сонца у кветках падбелу.
Зыркіх промняў адбіткі я бачу ў паглядзе тваім.
О случанка-душа, пакладзі маё сэрца на белым:
У цнатлівых прасцінах мы разам ад шчасця згарым.

*Ахвярую Н. М.*

Вы чыталі Міцкевіча; ціха трымцелі між пальцаў
З дробным шрыфтам старонкі; стаяла сляза ў вачах.
Нехта ўнізе, далёка, імкліва прабег па асфальце.
Нехта буркнуў у цемру: «Бадзяюцца тут па начах».

Нехта бразнуў дзвярыма — панеслася рэха дварамі
І, распятае, сціхла на сініх аконных крыжах.
І ўзмахнулі Вы раптам, як белае ўночы, рукамі —
Схамянуліся, нібы ад ветру званочкі ў лугах.

О мая крывічанка, мая дарагая, пяшчота
Ахінае душу маю ў гэткі трывожлівы час.
Хай жа крые на свеце на гэтым Вас бог ад самоты,
Калі ўсё ж такі нельга шчасліва злучыць яму нас.



Як закаханы ўпершыню хлапчук,
Які рукой дрыготкаю кранае
Дзяўчыны неспакойную руку,
Так я падношу пацеркі твае
Да губ маіх. І чую водар цела
твайго. І страшна мне і смела.
Гляджу ў каралі воч тваіх сягоння.
Знадворку хтосьці піша нам на шкле:
Яна + Ён.
І заўтрашні нам светлы час відзён.

## ВЕЧАРОВАЕ

На цвінтары апошнім кленчыць сонца
І мак таўкуць шалёна камары.
У тумановай белае пялёнцы
Зялёныя знікаюць хутары.

Вачэй тваіх блакітнае і бездань
Шукаю тут, дзе сон упаў, як хрушч;
А той, хто ледзь ідзе з вясёлых хрэсьбін,
Крычыць мне штось пра нейкі паляруш,

Шчаслівы прамінуў мяне: ён дома,
А я ўсё адшукаць хачу тваіх
Пяшчотна белых стрыманых далоняў,
І радасць нашу сёння на дваіх.



Гэта катрынка ядлоўцаў сініх
Музыку сумную грае з вечара,

Гэта пякельны позірк твой вінен,
Што затрымцела сэрца хлапечае.

Чорныя вочы з глыбі незнаёмага
Штосьці шукаюць ва мне апраметнае...
Безабаронны сусвет у гомане
Двух закаханых і пчол над кветкамі.

## ГУЛЛІВА

Ласкавы аксаміт гардзін
І Вы, жаданая, ў фатэлі.
Гадзіннік, нібы муэдзін,
І томік «Выбранага» Шэлі.

Мы тут. Мы побач: я і Вы.
Крыштальны келіх. Дно пустуе.
За мной не прыйдзе паставы,
І я сягоння тут начую.

Апоўнач хутка. Ціхі час.
Крыштальны келіх зноў парожні.
Калі наранні знойдуць нас,
Хай зброя застанецца ў ножнах.



Мае пачуцці, зрэшты, як і вашы,
Нібы каменні ў крушні: цяжка ім.
Скажыце ж мне, о мілая Наташа:
Вы мне даруеце мяне ў маім былым?

Вы мне прабачыце мільён маіх жаданняў,
Не вамі выкліканых некалісь, даўно?
Вы мне дазволіце пабыць у вас да рання?
Я сільфам ціха сяду на акно.

А з першым промнем я растану раптам
Ці спалатнею ў сонечным святле,
І галаву падстаўлю грому-кату,
І, безгаловы, скончу на крыле.

*В. А.*

Ёсць бездание глыбокае, ■ ў ім
Я бачу таямнічыя мігценні.
Там скачуць два абрывістыя цені,
На дол паслаўшы мохавы кілім.

І штосьці маюць цені ад спакусы.
А можа быць, то проста неспакой,
Дзе будучыня вызначана плюсам,
І мінусам — пражытае з табой.



Беспрытульна душа-пакаёўка
Столькі выхадзіла шляхоў.
І аднойчы, ледзь жыва, на золку
Да тваіх прыблукала дымоў.

Упусці ж мяне, любая, ў хату,
Пакланюся тваім абразам,
Раскажу пра усе свае страты
І душу табе ў рукі аддам.

## ПРЫЗНАННЕ

На белай прасціне ружаў вячэрніх
Барвяны сполах застыў.
Мой шосты месяц, высокі чэрвень,
Мяне прад вамі скарыў.

Між пальцаў вашых душа бадзягі
Слізнула жоўтым рамонкам на дол
І там памерла, як даўні шлягер.
Яе аплакаў залётны анёл.

## ВІНО ШЫПШЫНЫ
**(з Шэлі)**

У прымхліц поўначы ў бутонах гіяцынтаў
Блішчыць шыпшыны церпкае віно.
У сэрца мне ударыла яно.
Спакойна спяць дзесь у пустэльным замку
І кажаны, і векшы, і краты,
Схаваўшыся у шчыліну ці ў ямку;
І ад распырсканых паўсюль краплін,
Пахучых дзіўна так у цемнаце,
Ім весела становіцца у сне,

І чутна шапаценне між галін;
Яны не зналі аб такім віне.

◆



Чэрствым акрайцам у кіпені пачуццяў
разбракаю, каб, як з цеста,
                    новага сябе
вылепіць і паставіць на патрэбнае месца,
зерне пакінуўшы на новы пасеў.

## РАЗУМЕННЕ ПАЧАТКУ

Ніхто яшчэ не парушыў камень, які у крушні.
Ніхто яшчэ зямлю не араў сахой да знямогі.
Ніхто яшчэ не лічыў зоры ў цямрэчы вусцішнай.
Нікога яшчэ агонь не цалаваў у ногі.

## МОВА

Якісьці паэта сказаў, што дзве мовы ў яго і абедзве родныя. Падумаў тады: няўжо ты, паэце, дзвюх матак ссаў немаўляцем?

## ПЫТАННЕ

Спытай жа самога сябе: ці я жыццю рады?
А як адкажаш, не пытайся ў іншых.

## ЗЛЫ

Злы ходзіш на дурасць разумных і на разумнасць дурных. Глядзіш, як суседзі твае вар'яцеюць за картамі, у «тысячу» гуляючы. Адзін з іх вершы папісвае сентыментальныя, другі распрацоўвае «тэорыю» санета, а трэці, цёзка твой, па-беларуску двух слоў звязаць не можа — на філфаку вучыцца.

Злы ты на іх, а яны на цябе за тое, што кампанію ім не можаш скласці.

## ГЛЫБІНЯ

Глыбіня, што прысом не дастанеш. Слова толькі дапытацца можа тае цемры бяздоннай. А як жа знайсці яго, чароўнае, каб вочы каханай чорныя ратаваць маглі цябе ў глыбі глыбокай?

Матчыным словам крані душу дзявочую: адкажа — тады не бойся глыбокага.

## НА ВАЕННАЙ КАТЭДРЫ

Цябе на афіцэра вучаць.
На перапынку размаўляў па-беларуску,
задумаўся і на ўроку пачаў так. Ды
хутка апёкся — маёр не зразумеў: «Перестаньте разговаривать на местном наречии!»
...Ты Каліноўскага ўспомніў.



Калі запросяць мяне у краіну,
Дзе продкі нашыя княжаць наўздзіў,
Ты не кідай на каўчэг мой гліну,
А гронку воўчага лыка ўскладзі.

Дай мне ружовую заместа свечкі,
Ля галавы пакладзі, як вянец.
Ціхманыя воблакі, нібы авечкі,
Няхай абжалосяць мой хуткі канец.

ЗМЕСТ

---

**Литературно-художественное издание**
**КАЛЬВАРИЙСКИЕ КЛЕНЫ**
**Стихи**
**АДАМОВИЧ Славомир Генрихович**
Минск, журнал «Молодость», на белорусском языке

**Літаратурна-мастацкае выданне**
**КАЛЬВАРЫЙСКІЯ КЛЁНЫ**
**Вершы**
**АДАМОВІЧ Славамір Генрыхавіч**
Мінск, часопіс «Маладосць»,
на беларускай мове

Галоўны рэдактар **А. Грачанікаў**
Рэдактар **К. Камейша**
Мастак **В. Катовіч**
Мастацкі рэдактар **В. Казлоў**
Тэхнічны рэдактар **В. Марынчанка**
Карэктар **В. Башак**

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Здадзена ў набор 24.05.90. Падпісана да друку 11.07.90. АТ 01695. Фармат 70×100¹/₃₂. Друк высокі. Гарнітура школьная. Умоўн. фарбаадб. 5,53. Ум. друк. арк. 1,94. Ул.-выд. арк. 1,4. Тыраж 2498 экз. Зак. 767. Цана 25 к.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

